*Жыве Беларусь!*



# БЕЛАРУС

**№456 • Жнівень 1998 г.**
Год выд. 48

**BIELARUS** / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
**Address:** P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. **Price $3.00**

## СУДЗЯЦЬ БЕЛАРУСКУЮ МОВУ

У Менску працягваецца судовы працэс над газэтай «Наша Ніва». Газэце пагражае закрыцьцё, бо ў ёй выкарыстоўваецца не сапсаваны савета-русыфікацыяй варыянт беларускай мовы — тарашкевіца.

Сёлета ў траўні «НН» атрымала папярэджаньне Дзяржкамітэту, у якім газэце закідалася «скажэньне агульнапрынятых норм выкарыстоўваемай мовы», чаго не дазволяе прыняты на пачатку году адноўлены закон аб друку. Лічачы гэтыя закіды абуральнымі, рэдакцыя газэты зьвярнулася ў судовыя інстанцыі з патрабаваньнем адмяніць згаданае папярэджаньне. У адказ на гэтую заяву рэдакцыі Вышэйшы Гаспадарчы Суд РБ і распачаў судовую справу.

«У людзей, якія робяць «Нашу Ніву» няма сумневу, што ўлады закрыюць газэту, — гаварыць шматгадовы супрацоўнік «Нашай Нівы» Сяргей Шупа. — Улады вырашылі зьнішчыць апошні сымбаль беларушчыны, які дарагі нам ня менш за бел-чырвона-белы сьцяг, Пагоню і 25 Сакавіка, — яны пастанавілі зьнішчыць нашую мову. «Наша Ніва» адзін зь нешматлікіх пэрыёдыкаў на бацькаўшчыне, якія здолелі праявіць прынцыповасьць, пасьлядоўнасьці і нягледзячы на нішто застаюцца вернымі сваім ідэалам».

Падставаю для папярэджаньня паслужала «экспэртыза», зробленая на замову Камітэту па друку ведамым абаронцам рэформы 1933 г. членам-карэспандэнтам Нацыянальнай Акадэміі Навук Аркадзем Жураўскім.

У экспэртным заключэньні між іншага мова «Нашай Нівы» неаднаразова прыраўноўваецца да мовы газэты «Беларус».

Тут А. Жураўскі бясспрэчна мае рацыю: «НН» і «Беларус» пішуць адной мовай, якой пісалі «Наша Ніва» часоў Ластоўскага й Луцкевічаў, сотні назьнейшых выданьняў на бацькаўшчыне, 453 пэрыёдыкі на эміграцыі. Спроба А. Жураўскага прыбіць «НН» да крыжа ганьбы нератвараецца ў сьведчаньне цягласьці, няспынасьці традыцыі ўжываньня тарашкевіцы.

«Папраўкі й дапаўненьні да «Закону аб мовах», прынятыя сёлета ў ліпені, паўтараюць фармулёўку закону аб друку й рэглямэнтуюць мову пэрыядычных выданьняў, правапіс якіх цяпер павінен адпавядаць «агульнапрынятым нормам **выкарыстоўваемай** мовы». (Паказальна, што стваральнікі гэтага закону — сапраўдныя пачвары юрыспрудэнцыі — спарадзілі й лінгвістычную пачвару, вырадка савецкай паўмовы — слоўца-калеку **выкарыстоўваемай**.)

**Першае.** Ні ў воднай краіне, што ўважае сябе за дэмакратычную, у прынцыпе ня можа зьявіцца закону, якім рэглямэнтуецца мова недзяржаўнага выданьня, а тым больш вызначаецца, якія ўжываць формы словаў, якія пісаць канчаткі, якія выбіраць словы й як ставіць націск. Таталітарызм імкнецца ўсё падпарадкаваць свайму кантролю, што прадугледжвае мінімізацыю праяваў вольнага духу — вечнага ворага тыраніі.

**Другое.** Як разумець словы «агульнапрынятыя нормы»? Тарашкевіца — гэта цэласная сыстэма правапісных і граматычных нормаў, частка з якіх (ня ўсе!) былі адмененыя рэформай 1933 г. у бок набліжэньня да расейскае мовы, што прывяло да парушэньня й цэласнасьці, і традыцыі, і **агульнапрынятых нормаў**.

**Трэцяе.** Тарашкевіца ніколі не дазвалялася й не забаранялася: ні ў водным дакумэнце савецкіх часоў яна напросту ня згадваецца.

**Выснова.** *Выкарастаньне правапісна-граматычнага варыянту беларускай мовы, замацаванага граматыкай Б. Тарашкевіча, зьяўляецца матываваным, аб'ектыўным, навукова абгрунтаваным, традыцыйным і не супярэчыць ніводнаму зь існых законаў (калі наагул прызнаваць права рэгуляваньня падобных пытаньняў юрыдычнымі актамі).*

Сёньня на лаву падсудных пасадзілі мяккі знак — судзяць беларушчыну, і ад нашай гатоўнасьці не надцца залежыць, ці настолькі самаўпэўненым будзе вораг, настолькі жорсткімі, безаглядным будуць ягоныя дзеяньні.

Лукашызму не ўдалося цішком прыдушыць апанэнта — пра суд расказалі дзясяткі найбуйнейшых пэрыёдыкаў ды інфармацыйных агенцтваў. Пасьля двух судовых пасяджэньняў, 12 і 14 жніўня, разгляд справы адкладзены на колькі тыдняў.

*(Працяг тэмы на с. 5)*

## ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ: ЯКАЯ ПЭРСПЭКТЫВА?

Беларусы ў ЗША бралі ўдзел у Тыдні Паняволеных Народаў ад самага пачатку яго ўсталяваньня ў 1959 годзе.

Сёлетні Тыдзень (12–19 ліпеня) ня стаўся выключэньнем: 12 ліпеня зноў па 5 Авэню прайшлі маршам прадстаўнікі народаў, якія да сёньня ўважаюць сябе пагвалчанымі. Праўда, цяперашняе становішча, у параўнаньні з сытуацыя 50–80-х гадоў, прынцыпова зьмянілася, і дзясяткі паняволеных народаў набылі рэальную свабоду й незалежнасьць. Таму зусім натуральна, што акцыі Тыдня зьбіраюць ўсё менш удзельнікаў.

Гэтым разам, як і летась, беларуская дэлегацыя аказалася найбольшай і найлепш зарганізаванай. Па-над натоўпам луналі тры бел-чырвона-белыя сьцягі.

Кульмінацыяй акцыі стаўся нядоўгі пікет удзельнікаў акцыі на прыступках катэдры сьв. Патрыка (у катэдры, па традыцыі, было адслужанае набажэнства за паняволеныя народы). Ля катэдры сабралася шмат мінакоў, якія праяўлялі жывое зацікаўленьне — распытвалі ўдзельнікаў акцыі пра іх патрабаваньні, пра сытуацыю ў асобных паняволеных краінах (гл. здымак).

Нажаль, удзел беларусаў у мітынгу, што адбыўся пазьней у Цэнтральным Парку, ня быў такім удалым: не адбылося зазначанага ў праграме выступу старшыні Нью Ёрскага Аддзелу БАЗА Віталя Зайкі на тэму «Міты й рэальнасьць у Беларусі». Асобнай гаворкі заслугоўвае зьмест рэзалюцыі, у якой на дзьве старонкі тэксту ня была ніводнага разу згаданая нават сама назва Беларусь, аднак выказваецца пратэст супраць прызнаньня Эўрапейскаю Злучнасьцю сучасных межаў у Эўропе; таксама ў рэзалюцыі гаворыцца аб пагвалчаньні правоў чалавека ў Нямеччыне (!) і русыфікацыі ў Таджыкістане; ад Польшчы, Чэхіі й Расеі патра-

*(Працяг на с. 3)*

## ДА НАС ЕДЗЕ ЛУКАШЭНКА?

Нягледзячы на рашэньне амэрыканскіх уладаў адмовіць Лукашэнку ў праве наведваць ЗША, Дзярждэпартамэнт дазволіў прэзыдэнту Беларусі прыехаць у Нью Ёрк на Сэсію ААН, бо ААН мае экстэрытарыяльны статус. Сэсія пачнецца 20 верасьня. Да гэтага моманту яшчэ невядома, ці прыедзе Лукашэнка ў Нью Ёрк.

Аднак наўрад ён прапусьціць ледзьве не адзіную магчымасьць наведаць адну — найбуйнейшую — з заходніх краінаў, каб чарговы раз паспрабаваць пераканаць Захад у тым, што сёньняшняя Беларусь — узор дэмакратыі, а таму інвэставаньне ў беларускую эканоміку — выдатнае ўкладаньне капіталу.

Беларуская грамада Нью Ёрку рыхтуецца да сустрэчы «дарагога госьця» — дэманстрацыяй.

Пасьля наведаньня Нью Ёрку Лукашэнка плянуе завітаць да свайго сябра-аднадумца Фідэля Кастро. Такія цёплыя ўзаеміны беларускага дыктатара з кубінскім, пэўна, не пакінуць абыякавай апазыцыйную да Кастро кубінскую дыяспару.

Беларускія актывісты ужо ўвайшлі ў кантакт з прадстаўнікамі кубінскіх колаў, у прыватнасьці з уплывовай кангрэсўумэн — спн. Вэляскэс, якая паабяцала ня толькі прывесьці на антылукашэнкаўскую акцыю сваіх суродзічаў, але й выступіць з прамовай.

Было-б добра, калі-б акцыю ньюёрскіх беларусаў падтрымалі нашыя суродзічы зь іншых гарадоў ЗША.



**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## БЕЛАРУСКІ РУБЕЛЬ У АБЛОЗЕ

Беларускія грошы з моманту іх увядзеньня ў 1992 г. ніколі ня лічыліся надзейным сродкам аплаты. Прычына простая — пэрманэнтная дэвальвацыя.

Аднак цяпер беларускі ўрад уласнымі рукамі пачынае душыць беларускія грашовыя знакі: за родных «зайцаў», вы ня купіце бэнзыну, не расплоціцеся за некаторыя тавары й паслугі, нават плату за тавары, экспартаваныя зь Беларусі, беларускі бок бярэ толькі цьвёрдай валютай — ненавіснымі US$ і DM.

Дарэчы, само слова «зайцы», «зайчыкі» як назоў беларускіх грошай практычна выйшла з ужытку, бо ў абарачэньні не выкарыстоўваюцца ўжо ня толькі банкноты з ваявою зайца (1 рубель), але й усіх астатніх зьвяроў, апроч зубра (100 рублёў), а гэта 1/11 доля амэрыканскага цэнта: пасьля катастрафічнага падзеньня расейскага рубля, беларускі рубель паляцеў сьледам за цёзкам у прорву дэвальвацыі — на чорным рынку **$1 = 110.000 бел. руб.**

## ВЫНІКІ ГУЛЬНЯЎ ДОБРАЙ ВОЛІ-98

| | Зл. | Ср. | Бр. | Разам |
|---|---|---|---|---|
| 1. ЗША | 41 | 48 | 40 | 129 |
| 2. Расея | 34 | 30 | 30 | 94 |
| 3. Зборная зорак | 16 | 8 | 13 | 37 |
| 4. Кітай | 9 | 7 | 5 | 21 |
| 5. Нямеччына | 3 | 4 | 11 | 18 |
| 6. Куба | 8 | 5 | 4 | 17 |
| 7. Кенія | 5 | 4 | 4 | 13 |
| 8. Украіна | 1 | 6 | 2 | 10 |
| 9. Аўстралія | 2 | 6 | 2 | 10 |
| **10. Беларусь** | **2** | **5** | **2** | **9** |
| 11. Ямайка | 2 | 2 | 5 | 9 |
| 12. Румынія | 1 | 3 | 5 | 9 |
| 13. Турэччына | 0 | 1 | 5 | 6 |
| 14. Іран | 2 | 1 | 1 | 4 |
| 15. Бразылія | 2 | 0 | 1 | 3 |
| 16. Францыя | 0 | 2 | 1 | 3 |
| 17. Брытанія | 2 | 0 | 0 | 2 |
| 18. Трынідад і Табаго | 1 | 1 | 0 | 2 |
| 19. Чэхія | 1 | 0 | 1 | 2 |
| 20. Казахстан | 1 | 0 | 1 | 2 |
| 21. Узбэкістан | 1 | 0 | 1 | 2 |
| 22. Мэксыка | 0 | 2 | 0 | 2 |
| 23. Марокко | 0 | 1 | 1 | 2 |
| 24. Баўгарыя | 0 | 0 | 2 | 2 |
| 25. Японія | 0 | 0 | 2 | 2 |
| 26. Альжыр | 1 | 0 | 0 | 1 |
| 27. Італія | 1 | 0 | 0 | 1 |
| 28. Мазамбік | 1 | 0 | 0 | 1 |
| 29. Нігерыя | 1 | 0 | 0 | 1 |
| 30. Аргентына | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 31. Армэнія | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 32. Экўадор | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 33. Грэцыя | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 34. Вугоршчына | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 35. Ісьляндыя | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 36. Летува | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 37. Нарвэгія | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 38. Філіпіны | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 39. Польшча | 0 | 0 | 1 | 1 |

У Менску зьявіліся вуліцы пісьменьніка Кандрата Крапівы, паэткі Канстанцыі Буйлы (аўтаркі славутага верша «Люблю наш край»), мастака Валентыя Ваньковіча, тэатральнага дзеяча Ігната Буйніцкага.

*

Віленскія беларусы-каталікі нарэшце атрымалі сваю сьвятыню — гэта касьцёл сьв. Барталамэя на Зарэччы (па-летувіску *Užupis*). Касьцёл быў перададзены беларускім вернікам значна раней, аднак мясцовы бізнэсовец зацягваў выезд з касьцельнага памешканьня, у якім ён разгарнуў сваю вытворчасьць. У чэрвені суд прыняў канчатковае рашэньне: касьцёл належыць беларускай каталіцкай грамадзе.

*

4 ліпеня Папа Рымскі прызначыў на пасаду аўксыліярнага (дапаможнага) біскупа Гарадзенскае дыецэзіі айца Антона Дзямянку, 38-гадовага пробашча касьцёла ў Навагрудку.

*

У Менску адчыніўся новы музэй. Ён улякаваўся ў сядзібе Валентыя Ваньковіча — выдатнага беларускага мастака XIX ст.

Сядзіба знаходзіцца ў самым цэнтры горада, непадалёк ад пляцу Волі (ранейшы Высокі Рынак). Рэстаўрацыя дома распачалася яшчэ ў 80-я гады, аднак шматразова спынялася празь нястачу сродкаў.

*

Ва ўкраінскім тыднёвіку *National Tribune — Шлях Перемоги* (Нью Ёрк) надрукаваны артыкул, у якім між іншага насьвятляецца пазыцыя беларускага амбасадара ў ЗША В. Цэпкалы што да Ўкраіны: «Дыплямат «незалежнай» Беларусі нахабна інтэрпрэтуе Ўкраіну як часовую зьяву, якая ня мае будучыні, і таму Захад не павінен дарэмна марнаваць намаганьні, падтрымваючы ўкраінскую справу ў сьвеце».

*

У Горадні ўзьнікла Беларускае Краязнаўчае Таварыства імя Тодара Нарбута (гісторык, нарадзіўся на Лідчыне, дасьледаваў гісторыю Вялікага Княства Літоўскага).

*

7 жніўня на нью-ёрскім тэлеканале канале WMNB была паказаная праграма, прысьвечаная беларускай калёніі ў Клiўлендзе. Аўтар праграмы — Галіна Навумчык.

Канал WMNB, апроч трансьляваньня ўласных перадачаў, рэтрансьлюе навіны з расейскага тэлебачаньня, у якіх часта асьвятляюцца падзеі ў Беларусі. Пра ўмовы падпіскі на канал можна даведацца па тэл. 1-800-222-2786.

*

У выніку закрытага судовага разгляду сьвятар П. Гушча засуджаны на 3 гады зьняволеньня.

# ІНТЭРВІЮ НУМАРУ

**Па дарозе зь Лёндану ў Таронта на штогадовае паломніцтва да Беларускага Крыжа, Нью Ёрк наведаў апостальскі візытатар для беларусаў замежжа а. Аляксандар Надсон. Ніжэй падаем гутарку зь ім нашага карэспандэнта.**

***«Беларус»:** Першае, што, відаць, цікавіць нашых чытачоў — гэта грамадзкая й навуковая жыцьцё Беларускага Цэнтру ў Лёндане, які Вы ачаляеце.*

**а. А. Надсон:** Думаю, чытачы газэты ведаюць, што Беларускі Цэнтар у Лёндане — гэта сукупнасьць такіх установаў, як Беларускі Музэй і Бібліятэка імя Ф. Скарыны ды царква. Тут-жа знаходзіцца й сядзіба Англа-Беларускага Таварыства. У нас перахоўваюцца багатыя зборы ня толькі беларускіх кніг і пэрыёдыкі, але й вялікая колькасьць ніколі не публікаваных архіўных матар'ялаў (у тым ліку й рукапісаў), так ці інакай зьвязаных зь Беларусьсю. Асабліва шмат дакумэнтаў з гісторыі царквы. Аддавалі нам свае архівы й некаторыя пісьменьнікі. Маем дакумэнты з жыцьця беларускай эміграцыі, у тым ліку й дакумэнты БНР.

***«Б.»:** Калі дасьледнік зацікавіцца пэўнай праблемай, ці ёсьць магчымасьць знайсьці архіўныя матар'ялы, рукапісныя нататкі па той ці іншай праблеме? Ці складаецца картатэка бібліятэкі й архіву?*

**а. А. Н.:** Якраз цяпер такая праца вядзецца — выданьні й дакумэнты каталягізуюцца, сыстэматызуюцца. Ужо вялікая частка матар'ялаў закаталягізаваная й уведзеная ў камп'ютар. Гэта мы робім разам са студэнтамі, бо, як незалежная ўстанова, мы ня маем ніякай дапамогі збоку.

***«Б.»:** Вы згадалі пра студэнтаў...*

**а. А. Н.:** Так, пры нашым цэнтры жывуць студэнты багаслоўя, якія вучацца ў Місіянэрскім Інстытуце. Гэта Ігар Лабацэвіч і Юля Баўдзэй. І бачу сваю задачу ў тым, каб даць магчымасьць атрымаць багаслоўскую адукацыю маладым людзям зь Беларусі. Пару год таму нашымі стараньнямі былі створаныя ўмовы для навучаньняў у тым-жа Місіянэрскім Інстытуце для вельмі здольных дзяўчат зь Менску — Ірыны Дубянецкай і Караліны Мацкевіч, якія, выдатна скончыўшы студыі ў Лёндане, цяпер працягваюць тэалягічную адукацыю адпаведна — адна ў Лювэне, другая ў Парыжы.

***«Б.»:** Наколькі я бачу, вы лічыце багаслоўскую адукацыю — прыярытэтным напрамкам дзейнасьці.*

**а. А. Н.:** Калі ня будзе адукаваных сьвецкіх багасловаў, то слабая надзея на нармальнае разьвіцьцё царквы. А жанчыны, апрача сьвятарства, могуць рабіць усё тое-ж, што й мужчыны. Цяпер жанчыны на Захадзе выкладаюць у навучальных установах, рыхтуючы сьвятароў. Мы-ж жывем у канцы XX стагодзьдзя!

***«Б.»:** Судзячы па вестках з Брытаніі, Беларускі Цэнтар у Лёндане стаў прыцягальны для беларускай моладзі.*

**а. А. Н.:** У вышэйшых школах Брытаніі — у Лёндане, Кэмбрыджы, Манчэстэры, Ковэнтры (Warwick University), Эдынбургу — вучыцца даволі шмат беларусаў. Натуральна, яны зьбіраюцца ў нас у вольны час, найбольш зьяжджаюцца на канікулы. Што прыемна — усе яны жадаюць, здабыўшы асьвету, вярнуцца на бацькаўшчыну, каб працаваць для Беларусі.

***«Б.»:** Вы ня толькі кіраўнік Беларускага Цэнтру, але й уніяцкі сьвятар. Якая ў вас сувязь з парафіямі на Беларусі? Як выглядае грэка-каталіцкае жыцьцё Вашымі вачыма?*

**а. А. Н.:** Сумна. Уніятам не даюць разьвівацца. Афіцыйныя цывільныя ўлады ў Беларусі ніколі ня былі прыхільныя да каталікоў, і тым больш да каталікоў усходняга абраду. Паміж 1991–93 гг. яшчэ можна было гутарыць. Шмат хто прыйшоў да ўніяцкай царквы з нацыянальных меркаваньняў, нават не разумеючы, што значыць быць уніятам. Я кажу: кожны шлях да Бог ёсьць добры. Але калі рэч толькі ў нацыянальным, то гэтага замала. Гэта добра на пачатак, але трэба ісьці далей.

***«Б.»:** Адбываецца падмена рэлігійнага нацыянальным. А рэлігія й нацыянальнасьць — гэта рознае. Асабліва ў сучасным сьвеце, дзе павінна быць месца й для кітайцаў-праваслаўных, і для эстонцаў-паганцаў, і для беларусаў-будыстаў (я асабіста ведаю траіх)...*

**а. А. Н.:** Я думаю, тыя, хто прыйшоў толькі з нацыянальных меркаваньняў, — ужо адпалі. Засталіся тыя, што разумеюць гэтую справу глыбей. Браты праваслаўныя ўважаць, што мы ўяўляем для іх пагрозу. Але-ж не, барані Божа! Трэба шанаваць пераканаьні іншага чалавека. Бо для яго ягоныя пераканаьні такія-ж дарагія, як і мае пераканаьні дарагія для мяне. Я магу зь ім не пагаджацца, але не магу яго абражаць і зьневажаць. Браты рыма-каталікі таксама ня вельмі добра ставяцца да нас. Яны, здаецца, баяцца, што гэта можа ім пашкодзіць у дачыненьнях з праваслаўнымі. Але, мне здаецца, справа экумэнізму ня можа рабіцца за кошт душаў людзей. У нашым выпадку — уніятаў. Аднак калі ўніятаў ігнараваць ці ўвогуле адкінуць, яны-ж ня зьнікнуць. Яны могуць зьняверыцца. І стаць не каталікамі, не праваслаўнымі, а зусім адысьці. І мне балюча за іхныя душы. Гэта я кажу не як беларус, не як патрыёт, а як сьвятар. Ёсьць вельмі важны прынцып: найвышэйшы закон — гэта збаўленьне душаў. Ці я маю права адкідаць некага, каб я мог пацалавацца з маскоўскім патрыярхам? Гэта фальшыва зразуметы экумэнізм. Тое, што ўніяцкая царква жыве — сьведчаньне таго, што Бог хоча, каб яна жыла. У Бога ёсьць месца для ўсіх.

***«Б.»:** Дзе існуць прыходы ў Беларусі?*

**а. А. Н.:** Ёсьць у Менску, Берасьці, Горадні, Магілёве, Віцебску. У Полацку — мужчынскі й жаночы манастыры, у якіх праводзяцца летнія школы. Справа наладжваецца, але зь вялікай цяжкасьцю. Вычуваецца недахоп сьвятароў (няма сьвятароў, напрыклад, у магілёўскай і віцебскай суполках). У Берасьці выходзіць часапіс «Царква», выдаюць там і кніжкі.

*«Б.»: А як з выданьнем літургічнай літаратуры?*

**а. А. Н.:** Канчаю пераклад літургічных тэкстаў на беларускую мову. Гэтым займаюся ўжо 15 гадоў. Частка тэкстаў выдавалася. Яны пацьверджаныя найвышэйшай царкоўнай уладай. Мне заўсёды было балюча, што беларус ня мог славіць Бога на роднай мове. Я вучыўся ў грэцкай мове. Царкоўнаславянская мова мне нічога не гаварыла. Цяпер ужо перакладзена практычна ўсё, што неабходнае для нармальнай працы на прыходзе.

*«Б.»: Некаторыя лічаць Лёндан сталіцаю Эўропы. Нясумненна, што адзін з сусьветных цэнтраў палітычнай думкі. Ці цікавіць тут каго сытуацыя ў Беларусі?*

**а. А. Н.:** Нарэшце ў Брытаніі пачалі разумець становішча ў Беларусі й цяпер запрашаюць беларускіх грамадзкіх і культурных дзеячаў для ўдзелу ў сваіх форумах. У Брытаніі базуюцца штабкватэры такіх міжнародных праваабарончых арганізацый, як «Міжнародная амністыя» (*Amnisty International*), закладзены кансэрватарамі недзяржаўны Ўэстмінстэрскі Фонд Дэмакратыі (*Westminster Fundation For Democracy*), а таксама «Артыкул 19» (*Article 19*). Арганізацыя «Артыкул 19» займаецца праблемамі свабоды слова. У траўні яны выдалі брашуру «Пятля зацiскаецца» (*The Noose Is Tightening*) аб становішчы мэдыяў у Беларусі.

*«Б.»: Там, відаць, ёсьць разуменьне нашых праблемаў?..*

**а. А. Н.:** Там нас разумеюць лепш чым дзе.

*«Б.»: Дзякую за размову.*

**Гутарыў Зьм. Саўка.**

## ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ

*(Працяг з с 1.)*

буецца вярнуць былым гаспадаром страчаную у часе Другой сусьветнай вайны маёмасьць у Сылезіі, Судэтах ды Ўсходняй Прусіі.

Узьнікае натуральнае пытаньне: ці варта беларусам браць удзел у імпрэзах і акцыях, дзе беларускія інтэрэсы (сутнасна вельмі спэцыфічныя, бо *de jure* Беларусь — незалежная дзяржава) не рэпрэзэнтуюцца?

Беларусам трэба для сябе вырашыць: або мы не фармальна, а фактычна будзем супрацоўнічаць з Камітэтам Паняволеных Народаў, які і правадзіцца Тыдзень Паняволеных Народаў, і будзем лабіраваць у гэтым Камітэце свае інтарэсы, або скіруем свае сілы на самастойныя акцыі? Ці ёсьць сэнс выступаць за правы іншых, калі мы ня ў стане абараніць уласных правоў?

І яшчэ адзін момант. Сам мітынг традыцыйна праходзіць у Цэнтральным Парку, куды людзі прыходзяць адпачыць, пакатацца на роліках, папіць піва, а не мітынгаваць. Таму мітынг праходзіў пад акампанэмэнт рокавай музыкі (зусім побач ад месца правядзеньня мітынгу знаходзіцца канцэртная пляцоўка), праз якую часам ня было чуваць прамоўцаў.

Таму калі будзе прынятае рашэньне й надалей браць удзел у Тыдні Паняволеных Народаў, то трэба ставіць пытаньне аб прынцыповай зьмене месца й формаў дэманстраваньня.

**Ілона Урбановіч**

## СЬПІС СЛУЖБОЎЦАЎ ДЗЯРЖАЎНАЙ АДМІНІСТРАЦЫІ, ЯКІМ АДМОЎЛЕНА Ў ВІЗАХ у краіны Эўрапейскай Злучнасьці, ЗША* й яшчэ 10 эўрапейскіх краінаў

*Прэзыдэнт і адміністрацыя прэзыдэнта*

1. **Аляксандар Лукашэнка**, прэзыдэнт.
2. **Міхаіл Мясьніковіч**, кіраўнік адміністрацыі.
3. **Уладзімір Русакевіч**, першы заступнік кіраўніка адміністрацыі.
4. **Іван Пашкевіч**, заступнік кіраўніка адміністрацыі.
5. **Аляксандр Абрамовіч**, заступнік кіраўніка адміністрацыі.
6. **Урал Латыпаў**, дарадца ў вонкавых дачыненнях.
7. **Уладзімір Каралёў**, дарадца ў пытаньнях пратаколу.
8. **Пётра Капітула**, кіраўнік аналітычнага цэнтру.
9. **Віктар Кучынскі**, кіраўнік дэпартамэнту гуманітарнае дапамогі.
10. **Аляксандар Пласкавіцкі**, кіраўнік Дзяржаўна-Прававрй Управы.
11. **Іван Ціцянкоў**, кіраўнік справаў.
12. **Аляксандар Пятроў**, кіраўнік сакратарыяту.
13. **Уладзімір Канабееў**, кіраўнік Управы Вонкавай Палітыкі.
14. **Віктар Шэйман**, дзяржаўны сакратар Рады Бясьпекі.
15. **Анатоль Тозік**, заступнік кіраўніка Рады Бясьпекі.
16. **Сяргей Канцавенка**, заступнік кіраўніка Рады Бясьпекі.

*Кабінет Міністраў*

17. **Сяргей Лінг**, старшыня Кабінэту Міністраў.
18. **Уладзімір Замяталін**, заступнік старшыні.
19. **Уладзімір Гаркун**, заступнік старшыні.
20. **Валеры Кокараў**, заступнік старшыні.
21. **Васіль Даўгалёў**, заступнік старшыні.
22. **Леанід Козік**, заступнік старшыні.
23. **Уладзімір Казлоўскі**, кіраўнік сакратарыяту старшыні Кабінэту Міністраў.
24. **Генрых Кумпіцкі**, кіраўнік апарату Кабінэту Міністраў.
25. **Дзьмітры Маліноўскі**, прэс-сакратар старшыні Кабінэту Міністраў.
26. **Валянцін Сташкевіч**, кіраўнік Управы Эканомікі.
27. **Ю. Бабчонак**, аддзел навукі й новых тэхналёгіяў.
28. **Барыс Іваноў**, аддзел удасканаленьня спэцыялістаў.
29. **Аляксандар Карачун**, аддзел культуры.
30. **Васіль Пугачоў**, кіраўнік Управы Вонкавага Гандлю й Міжнароднага Супрацоўніцтва.
31. **Іван Лемяшэўскі**, кіраўнік дарадчай групы.

*Канстытуцыйны Суд*

32. **Рыгор Васілевіч**, старшыня Канстытуцыйнага Суда.

*Міністэрствы*

33. **Міхаіл Марыніч**, міністар вонкавых эканамічных дачыненьняў.
34. **Альбэрт Дабрамудраў**, першы заступнік міністра вонкавых эканамічных дачыненьняў.
35. **Аляксей Майсейчыкаў**, заступнік міністра вонкавых эканамічных дачыненьняў.
36. **Валерый Садоха**, заступнік міністра вонкавага гандлю.
37. **Іван Лях**, міністар працы.
38. **Дзьмітры Марач**, першы заступнік міністра працы.
39. **Мікалай Шаванда**, заступнік міністра працы.
40. **Мікалай Таўмачоў**, кіраўнік Управы Міжнародных Дачыненьняў.
41. **Васіль Стражаў**, міністар адукацыі.
42. **Анатоль Гарнак**, заступнік міністра адукацыі.
43. **Генадзь Дылян**, заступнік міністра адукацыі.
44. **Георгі Бутрым**, заступнік міністра адукацыі.
45. **Уладзімір Ціханаў**, кіраўнік Управы Міжнародных Дачыненьняў.
46. **Віктар Ветраў**, міністар будаўніцтва й архітэктуры.
47. **Аляксандар Сідарэнка**, заступнік міністра будаўніцтва й архітэктуры.
48. **Алег Чэшка**, кіраўнік Управы Міжнародных Дачыненьняў.
49. **Мікалай Корбут**, міністар фінансаў.
50. **Мікалай Румас**, заступнік міністра фінансаў.
51. **Аляксандр Галаў**, заступнік міністра фінансаў.
52. **Валянцін Зорын**, міністар лясной гаспадаркі.
53. **Ігар Зелянкевіч**, міністар аховы здароўя.
54. **Мікалай Крысенка**, заступнік міністра аховы здароўя.
55. **Эдуард Глацкоў**, кіраўнік управы міжнародных дачыненьняў.
56. **Валеры Філонаў**, заступнік міністра.
57. **Анатоль Кажамякін**, галоўны эпідэміёляг.
58. **Валянцін Вялічка**, міністар для справаў СНГ.
59. **Васіль Шаладонаў**, заступнік міністра для справаў СНГ.
60. **Пётра Крэчка**, заступнік міністра для справаў СНГ.
61. **Пётра Казлоў**, міністар гандлю.
62. **Сяргей Есін**, кіраўнік Управы Вонкавага Гандлю.
63. **Анатоль Харлап**, міністар прамысловасьці.
64. **Уладзімір Галко**, заступнік міністра прамысловасьці.
65. **Валянцін Агалец**, міністар унутраных справаў.
66. **Пётра Халюта**, кіраўнік Дэпартамэнту Барацьбы з Наркотыкамі.
67. **Уладзімір Паляноў**, кіраўнік Управы Міжнародных Дачыненьняў.
68. **Уладзімір Левітанаў**, кіраўнік Беларускага Бюро Інтэрполу.
69. **Уладзімір Князеў**, заступнік кіраўніка Беларускага Бюро Інтэрполу.
70. **Генадзь Варанцоў**, міністар юстыцыі.
71. **Аляксандар Сазонаў**, міністар прадпрымальніцтва й інвэстыцыяў.
72. **Аляксандар Сасноўскі**, міністар культуры.
73. **Уладзімір Рылатка**, першы заступнік міністра культуры.
74. **Б. Сьвятлоў**, заступнік міністра культуры.
75. **Іван Шакола**, міністар земляробства.
76. **Юры Мароз**, першы заступнік міністра земляробства.
77. **Аляксандар Старавойтаў**, заступнік міністра земляробства.
78. **Міхаіл Русы**, міністар прыродных рэсурсаў і экалёгіі.
79. **Ігар Войтаў**, першы заступнік міністра прыродных рэсурсаў і экалёгіі.
80. **Іван Кенік**, міністар для надзвычайных сытуацыяў.
81. **Ігар Ралевіч**, заступнік міністра для надзвычайных сытуацыяў.
82. **Уладзімір Ганчарэнка**, міністар сувязі й інфарматыкі.
83. **Васіль Валашчук**, заступнік міністра сувязі й інфарматыкі.
84. **Вольга Даргель**, міністар сацыяльнай абароны.
85. **Мікалай Ананьеў**, міністар спорту й турызму.
86. **Міхаіл Шаршавіцкі**, заступнік міністра спорту й турызму.
87. **Уладзімір Нічыпаровіч**, міністар статыстыкі й аналізу.
88. **Аляксандар Лукашоў**, міністар транспарту й камунікацыяў.
89. **Васіль Халоўскі**, першы заступнік міністра транспарту й камунікацыяў.
90. **Анатоль Лугаўцоў**, заступнік міністра транспарту й камунікацыяў.
91. **Сяргей Кучынскі**, кіраўнік Управы Міжнародных Дачыненьняў.
92. **Аляксандар Чумакоў**, міністар абароны.
93. **Міхаіл Казлоў**, першы заступнік міністра, начальнік Генэральнага Штабу.
94. **Алег Яцкевіч**, заступнік начальніка Генэральнага Штабу.
95. **Пётра Рагашэўскі**, заступнік начальніка Генэральнага Штабу.
96. **Уладзімір Яхніцкі**, заступнік начальніка Генэральнага Штабу.
97. **Васіль Новак**, міністар прыватызацыі й дзяржаўнай маёмасьці.
98. **Васіль Давыдзенка**, заступнік міністра прыватызацыі й дзяржаўнай маёмасьці.
99. **Васіль Некрашэвіч**, заступнік міністра прыватызацыі й дзяржаўнай маёмасьці.
100. **Уладзімір Шымаў**, міністар эканомікі.
101. **Барыс Батура**, міністар камунальнай гаспадаркі.

*Дзяржкамітэты*

102. **Уладзімір Мацкевіч**, старшыня КГБ.
103. **Леанід Ерын**, першы заступнік старшыні КГБ.
104. **Генадзь Наркевіч**, заступнік старшыні КГБ.
105. **Сьцяпан Сухарэўка**, заступнік старшыні КГБ.
106. **Вікенці Макарэвіч**, выканальнік абавязкаў старшыні Мытнага Камітэту.
107. **Аляксандар Дзеравяшка**, заступнік старшыні Мытнага Камітэту.
108. **Мікалай Дзямчук**, старшыня Падаткавага Камітэту.
109. **Аляксандар Пазьняк**, старшыня Камітэту Справаў Моладзі.
110. **Рыгор Кісель**, старшыня Дзяржаўнай Тэлерадыёкампаніі.
111. **Аляксандар Паўлоўскі**, старшыня Камітэту Памежных Войскаў.
112. **Аляксандар Білык**, старшыня Камітэту Справаў Рэлігіі.
113. **Георгі Кузьняцоў**, старшыня Камітэту Геадэзіі й Картаграфіі.
114. **Уладзімір Ярмолік**, старшыня Камітэту Дзяржаўных Матар'яльных Рэзэрваў.
115. **Леў Дубовік**, старшыня Камітэту Ашчаджэньня Энэргіі.
116. **Аляксандар Міхальчанка**, старшыня Камітэту Архіваў і Дакумэнтацыі.
117. **Валеры Кудашоў**, старшыня Патэнтнага Камітэту.
118. **Валеры Карашкоў**, старшыня Камітэту Стандартызацыі, Мэтралёгіі й Сэртыфікацыі.
119. **Юры Пакумейка**, старшыня Камітэту Гідрамэтэаралёгіі.
120. **Анатоль Дастанка**, старшыня Вышэйшай Атэстацыйнай Камісіі.
121. **Віктар Гайсёнак**, старшыня Камітэту Навукі й Тэхналёгіяў.
122. **Уладзімір Байкоў**, першы заступнік старшыні Камітэту Навукі й Тэхналёгіяў.
123. **Эдуард Матуліс**, заступнік старшыні Камітэту Навукі й Тэхналёгіяў.

*Міністэрства Замежных Справаў*

124. **Іван Антановіч**, міністар.
125. **Сяргей Мартынаў**, першы заступнік міністра.
126. **Мікалай Бузо**, заступнік міністра.
127. **Ніна Мазай**, заступнік міністра.
128. **Уладзімір Герасімовіч**, заступнік міністра.
129. **Інэса Плескачэўская**, кіраўнік службы дзяржаўнага пратаколу.
130. **Яўген Грэцкі**, заступнік кіраўніка службы дзяржаўнага пратаколу.

* Амэрыканскія ўлады пашырылі гэты сьпіс на сямейнікаў (служэнцаў і паўналетніх дзяцей) пералічаных у сьпісе асобаў.

# ХРОНІКА ХРОНІКА ХРОНІКА ХРОНІКА ХРОНІКА

## ТАРОНТА

19 ліпеня ў Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры ў Таронта адбылася акадэмія памяці др. Вітаўта Тумаша. Беларускае грамадзтва Канады аддавала пашану памяці былога старшыні БІНІМу, сябры Рады БНР, БАЗА, выдатнага дзеяча, нястомнага дасьледніка жыцьця й дзейнасьці др. Ф. Скарыны.



Пасьля сьв. літургіі ў царкве БАПЦ, у часе якой маліліся за супакой душы В. Тумаша, у залі Цэнтру прайшоў урачысты сход. Пасярэдзіне стала, засланага беларускімі тканінамі, вакол масы жывых кветак і беларускіх бел-чырвона-белых сьцяжкоў былі разьмешчаны партрэты В. Тумаша. Ля іх гарэлі сьвечкі. Тут-жа дэманстравалася невялікая памінальная экспазыцыя: перавыданыя кнігі Біблії Ф. Скарыны; апошняя, выдадзеная ў 1989 г., кніга В. Тумаша «Пяць стагодзьдзяў Скарыяніны. XVI—XX».

Урачыстасьць, зарганізаваную Каардынацыйным Камітэтам Беларусаў Канады, адкрыла старшыня ККБК др. Р. Жук-Грышкевіч. Яна прывітала найпачэсьнейшага Ўладыку Мікалая й сьвятароў Юр'яй і Васіля, старшыню Рады БНР Івонку Сурвіллу ды ўсіх прысутных. Далей др. Р. Жук-Грышкевіч расказала пра жыцьцёвы шлях др. В. Тумаша. Ужо тады ён пачаў цікавіцца жыцьцём і дзейнасьцю Ф. Скарыны.

Затым спн. І. Сурвілла прачытала разьвітальнае слова — «Пахвала майму бацьку» (гл. с. 6) — дачкі др. В. Тумаша, Яраславы. Яра гаварыла аб сьветлай, талерантнай, поўнай любові да Бацькаўшчыны й людзей душы й шляхотным характары бацькі. У пацьверджаньне словаў Яраславы выступалі з успамінамі І. Сурвілла, К. Акула, М. Ганько, Э. Пітушка.

Надзея Дробіна (на здымку) прадэклямавала верш Ларысы Геніюш, прысьвечаны 60-м угодкам жыцьця В.Тумаша:

*Першыя вершы, мае жураўлі,*
*дзякуючь Вам за апеку.*
*Дзякуй за тое, што другам былі,*
*што заўсёды былі чалавекам...*

Каб выказаць др. В. Тумашу падзяку за ягоную навуковую спадчыну, Р. Жук-Грышкевіч прачытала, падрыхтаваны на падставе ягоных скарынавєдных працаў даклад на тэму «Па сьлядох жыцьця др. Францішка Скарыны».

Пасьля адчытаньня дакладу прысутныя ўсталі й хвілінай маўчаньня ўшанавалі памяць доктара Вітаўта Тумаша.

## АЎСТРАЛІЯ

30 чэрвеня зь ініцыятывы Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі была наладжаная ўрачыстая акадэмія, прысьвечаная 54-м угодкам Другога Ўсебеларускага Кангрэсу й Беларускае Краёвае Абароны.

Адчыніў акадэмію старшыня БЦВК Паўлюк Гуз. Прывітаўшы прысутных, ён запрасіў у прэзыдыюм удзельніка Другога Ўсебеларускага Кангрэсу Ўл. Сідлярэвіча, які расказаў пра Кангрэс.

Старшыня Фэдэральнае Рады Аўген Груша прадэклямаваў два вершы: «Чаго вам хочацца, панове» Е. Рыбікаўскага й «Ці-ж мы ліліпуты» А. Камароўскага.

У прынагодным рэфэраце Алег Шнэк сказаў: «Зладзеі сёньняшняга марыянэтачнага ўраду Беларусі намагаюцца ачарніць нашых патрыётаў 44-га году, называючы іх калябарантамі, здраднікамі, нацыяналістамі й г.д.

Як можна называць патрыётаў, змагароў 40-х гадоў здраднікамі, калі яны змагаліся, каб вызваліць сваю Бацькаўшчыну з крывавых кіпцюроў маскоўскага ката, каб адрадзіць сваю мову, культуру, свой народ! Яны называюць нас нацыяналістамі. Дык за гэта ім вялікі дзякуй!

Быць нацыяналістам, сапраўдным нацыяналістам — гэта вялікі гонар. Быць нацыяналістамі — гэта значыць дбаць за сваю Краіну, за свой Народ». **П. Гуз**

## КЛІЎЛЕНД



Набліжаецца да канца будаўніцтва новай беларускай праваслаўнай царквы ў Грамадзкім Цэнтры «Полацак». Ёсьць надзея, што да зімы будоўля завершыцца.

**На здымку:** макет новай царквы.

## ЭСТОНІЯ

Ужо 9 гадоў існуе ў Іда-Вірумаа (тут жыве каля 7 тысячаў беларусаў) Згуртаваньне Беларускае Культуры «БЭЗ», якое ачаляе Маргарыта Астравумава (на здымку — пасярэдзіне). Першым старшынём «БЭЗу» быў паэт Уладзімер Дзехцярук, чый зборнік «Сярод белых эстонскіх начэй» выйшаў у сталіцы Эстоніі, Таліне, па-беларуску ў 1995 годзе.

«БЭЗ» ладзіць вечарыны, адзначае народныя каляндарныя й нацыянальныя сьвяты, а фальклёрны гурт «бэзаўцаў» выяжджае з канцэртамі ня толькі ў іншыя мясьціны Эстоніі, але й у беларускія асяродкі цэлай Балтыі.



## ЧЫКАГА

Днямі сакратар штату Іліной Джордж Раян і ягоная сужэніца спадарыня Раян ладзілі прыняцьцё для прадстаўнікоў этнічных мэдыяў — рэпрэзэнтантаў больш як трыццацёх нацыянальных групаў.



**На здымку:** спн. Раян і беларускі літаратар з Чыкага Ванкарэм Нікіфаровіч.

## ЛІСТ ВЫДАЎЦОЎ КНІЖНАЕ СЭРЫІ «БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР» ДА ЧЫТАЧОЎ У ЗАМЕЖЖЫ

Дарагія суайчыннікі!

Усякі раз, калі да нас трапляе газэта «Беларус», мы зь вялікай цікавасьцю яе прачытваем. Сябры Міжнароднага Фонду «Беларускі кнігазбор» вельмі ўсьцешаныя актыўным жыцьцём беларускай дыяспары й удзячныя Вам за тое, што, пражыўшы столькі год на чужыне, Вы ня толькі захавалі беларускую культуру, мову, але й актыўна, самааддана працуеце на ніве нацыянальнага адраджэньня беларускага народу — выдаеце газэты, часапісы, кнігі, праводзіце навуковыя канфэрэнцыі й чытаньні, жывяце актыўным грамадзкім жыцьцём.

На нашай Бацькаўшчыне зараз цяжкія часіны, але й у гэтых умовах беларусы тут робяць усё магчымае для таго, каб захаваць самабытнасьць нашай мовы, культуры, даносьці да жыхароў нашай краіны й сьвету, што мы маем сваю самабытную, тысячагадовую гісторыю, культуру

З радасьцю хочам паведаміць, што на Беларусі лепшымі навуковымі сіламі нашай краіны распрацаваная й пачала выдавацца ўнікальная кніжная сэрыя «Беларускі кнігазбор», у якую ўвойдзе ўсё лепшае, што было створанае на нашай зямлі ад старажытнасьці да нашых дзён; сярод тамоў «Беларускага кнігазбору» пачэснае месца зоймуць і лепшыя творы беларускай дыяспары, якія мы мяркуем рыхтаваць супольна зь БІНІМам.

«Беларускі кнігазбор» складаецца з дзьвюх сэрыяў. У першую («бардовую») увойдуць творы мастацкай літаратуры, у другую («зялёную») — гісторыка-літаратурныя помнікі. Апрача выдадзеных ужо кніг (якія яшчэ будуць перавыдавацца) чытача чакаюць сустрэчы з жывым словам Кірылы Тураўскага, Францішка Скарыны, Сымона Буднага, Міхалона Ліцьвіна, Міколы Гусоўскага, Яна Вісьліцкага, Сімяона Полацкага ды іншых славутых пісьменьнікаў старажытнасьці. Упяршыню шырока будзе паказана літаратура Беларусі й пра Беларусь XVIII–XIX стст. Выйдуць аднатомнікі твораў Францішка Князьніна, Францішка Багамольца, Юльяна Нямцэвіча, Адама Міцкевіча, Юзафа Крашэўскага, Евы Фялінскай, Яна Баршчэўскага,

## ХРОНІКА ХРОНІКА

### НЬЮ ЁРК

31 жніўня мясцовая беларуская грамада прымала ў Фундацыі імя П. Крэчэўскага групу моладзі зь Беларусі. Нажаль, прыезд маладых людзей у Нью Ёрк стаўся для нас нечаканасьцю й ня ўсе зацікаўленыя ў спатканьні суродзічы здолелі прысутнічаць на сустрэчы.

Група моладзі наведала Амэрыку па праекце абмену досьведам Інфармацыйнага Агенцтва ЗША (USIA). Усе яны — прадстаўнікі розных маладзёвых арганізацыяў, трапілі ў склад групы ў выніку конкурсу заявак. Кожны зь іх мусіў прапанаваць уласную праграму знаходжаньня ў ЗША.

Нью Ёрк быў апошнім пунктам у праграме. А пачаліся адведзены Амэрыкі з Вашынгтону й працягваліся ў Аёве ды Паўночнай Караліне.

У групу ўваходзілі: **Максім Чарняўскі** (Аб'яднаньне Беларускіх Скаўтаў, Менск), **Мікіта Колас** (намесьнік старшыні «Маладое Грамады» — маладзёвага адгалінаваньня беларускіх сацыял-дэмакратаў, Менск), **Юры Бутырын** (Маладзёвае Грамадзкае Аб'яднаньне «Рэальны мір», Сьветлагорск, — перадухіленьне наркаманіі й AIDS), **Уладзімер Хільмановіч** (Асацыяцыя Маладых Навукоўцаў «Віт», журналіст, Горадня), **Аляксандра Кузякова** («Маладая Грамада», Берасьце), **Валянцін Аскірка** (старшыня Гарадзенскае філіі «Маладое Грамады»), **Сьвятлана Кавальчук** (дзіцячы клюб «Зялёная Карова», Навагрудак, — экалёгія, краязнаўства, абарона правоў дзяцей), **Юры Шульга** (старшыня рады культурна-асьветніцкай арганізацыі «Маладзік», Берасьце, — культурнае й гістарычнае адраджэньне Беларусі).

На наступны дзень у Фундацыі прайшла сустрэча зь яшчэ адным удзельнікам групы — Валянцінам Глушанковым (дзіцячая экалягічная газэта «Зялёны Дуб»).

Парадавала тое, што з васьміасабовай групы сямёра гаварылі па-беларуску. Ніжэй падаем найбольш цікавыя моманты гутаркі.

*— Што вам дала паездка? Ці вы засталіся задаволеныя?*

**В. Аскірка:** У ЗША аграмадныя магчымасьці самарэалізацыі. Гэта, з аднаго боку, вельмі ўражвае, з другога — наўрад ці хутка ў нас, у Беларусі, будуць такія ўмовы. Застаецца спадзявацца на тое, што мы самі здолеем нешта зрабіць, нешта выправіць. А наш побыт тут — гэта штуршок да таго, каб зьмяніць становішча ў Беларусі.

**А. Кузякова:** Было вельмі цікава, але мэтады працы з моладзьдзю, якія выкарыстоўваюцца ў Амэрыцы, цяжка ужыць у Беларусі, бо вельмі адрозніваецца сытуацыя ў краіне.

**Ю. Бутырын:** Мало информации, поездка меня не удавлетворила.

**М. Чарняўскі:** У Вашынгтоне нас запрасіў на абед амэрыканскі амбасадар у Беларусі сп. Спэкгард. Ён мае надзею на вяртаньне — магчыма, ня надта хуткае — у Беларусь. Ён падкрэсьліў, што ня так важнае памешканьне рэзыдэнцыі, самае галоўнае — каб у Беларусі зразумелі, што ЗША змагаецца не за памешканьне, а за правы, імкнучыся давесьці, што ёсьць законы, якія трэба паважаць.

**В. Аскірка:** Склалася ўражаньне, што ЗША ня мае намеру рабіць нейкія рэзкія захады. Спэкгард не хаваў, што амэрыканскія ўлады будуць чакаць выніку прэзыдэнцкіх выбараў у Расеі.

*— Ці былі ў вас адкрыцьці — сумная, радасныя, вясёлыя?*

**В. Аскірка:** Са мною стаўся вельмі паказальны выпадак. Забалеў зуб. Я як грамадзянін Беларусі зьвярнуўся па дапамогу ў беларускую амбасаду ў Вашынгтоне. Там мне адказалі: «Обращайтесь в посольство России»...

**М. Чарняўскі:** На адным спатканьні я доўга распавядаў пра сытуацыі ў Беларусі, аб дыктатуры, аб прэзыдэнце, але ні разу не назваў ягонага імя. І толькі пад канец размовы я сказаў, як завуць прэзыдэнта. Мае слухачы-амэрыканцы падскочылі: «А, ведае-ведаем!» Мяне такая рэакцыя парадавала: гэта файна, што Лукашэнку й Беларусь ня зьвязваюць у адно.

*— Што вас найбольш уразіла ў Амэрыцы?*

**Ю. Шульга:** Амэрыканцы вельмі падобныя да беларусаў. А яшчэ мяне ўразіў у Амэрыцы здаровы прагматызм: прадумваецца кожная дробязь.

**В. Аскірка:** Я ўяўляў Амэрыку абсалютна інакш. Мне не хапала тут адкрытасьці. Праз тры-чатыры дні побыту ў ЗША мне надумалася: хутчэй-бы дадому. Праўда, тут, сярод вас, у мяне такіх праблемаў не ўзьнікае — я пачуваюся вельмі добра.

**А. Кузякова:** Самае важнае, што тут людзі самі бяруць удзел у вырашэньні агульных праблемаў грамадзтва. У насжа людзі вельмі пасіўныя... Самае цяжкое ўражаньне — амэрыканскае ежа. Гэта нешта страшнае. Тут у вас [у Фундацыі] — зусім іншая рэч! Першы раз мы нармальна паелі! [Уся група дружна падтрымала гэтую заўвагу.]

**Ул. Хільмановіч:** Я нарадзіўся на вёсцы, таму мне найбольш спадабаўся штат Аёва. І тым больш было балюча й крыўдна за нашых вяскоўцаў, якія ўсё жыцьцё паклалі на савецкі калгас і нават у сьне не ўяўляюць такой развьітай сельскай гаспадаркі, што мы пабачылі ў Амэрыцы.

**М. Чарняўскі:** Перад тым, як мы сюды ехалі, нас папярэджвалі, што будзе культурны шок. Але гэтага не адбылося. Ніякага шоку! Уключаеш тэлевізар і чуеш тую-ж музыку, бачыш тыя-ж фільмы, што й у нас... А яшчэ было дзіўна, што цябе за руку ніхто не хапае, калі расплочваешся далярамі [у Беларусі гэта лічыцца злачынствам]... У Амэрыцы вельмі зычлівыя людзі.

---

Ігната Дамейкі, Элізы Ажэшкі, Адама Плуга, Вінцэнта Дунін-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча, Аляксандра Ельскага, Паўла Шпілеўскага, Фадзея Булгарына ды інш. Вялікае месца зойме тут і айчынная літаратура XX ст., пачынаючы ад творчасьці Ядвігіна Ш., Янкі Купалы й заканчваючы творамі нашых сучаснікаў. Зацікавяць чытача й гісторыка літаратурные помнікі — «Гісторыя літоўскага народу» Тадора Нарбута, «Апісаньне Барысаўскага павету» Яўстаха Тышкевіча, «Беларускія старажытнасьці» Аляксандра Семянтоўскага, «Віцебская Беларусь» Мікалая Нікіфароўскага, «Вяльля й яе берагі» Канстанціна Тышкевіча, «Віцебская даўніна» Аляксея Сапунова, «Беларускі народ» Міхала Федароўскага, «Беларусы-палешукі» Аляк-

*(Працяг на с.7)*

## ДЫСКУСІЯ

# НЕЎРЭГУЛЯВАНЫЯ ВЫПАДКІ ПРАВАПІСУ

У сёньняшняй Беларусі спрабуюць закрыць газэту за тое, што яна выходзіць «дарэформенным» правапісам. Ненавісьнікі беларускай мовы стараліся зьнішчыць яе, ня толькі зьнішчаючы яе носьбітаў, але й вытраўляючы зь яе самую сутнасьць: падмяняючы беларускае расейскім.

*Гэта яны, цяперашнія спадкаемцы* Мураўёва й Цанавы, цьвердзяць, што мы ўжываем неўнармаваны правапіс. Яны спэкулююць на тым, што тарашкевіца сёньня сапраўды мае зашырокую варыянтнасьць.

Надышоў час скансалідавацца — выпрацаваць адзіны правапісны стандарт, якога маглі-б трымацца ўсе выдаўцы Беларусі й замежжа.

*У гэтым нумары мы пачынаем сэрыю артыкулаў, прысьвечаных праблемам беларускага правапісу.*

### З гісторыі праблемы

Першай навуковай працай, у якой ставілася мэта ўрэгуляваць беларускі правапіс, стала кніга Браніслава Тарашкевіча «Беларуская граматыка для школ», што выйшла ў Вільні ў 1918 г. Гэтая праца зьявілася падсумаваньнем нормаў і прынцыпаў новай беларускай літаратурнай мовы, якія ўзьніклі ў працэсе практыкі пісьмовай мовы.

Нягледзячы на высокі ўзровень гэтай піянэрскай працы, па-за ўвагаю засталіся шмат якія пытаньні правапісу, а некаторыя праблемы, як паказала практыка, былі вырашаныя ня зусім удала.

Ужо ў 1920-я гады насьпела неабходнасьць рэфармаваць правапіс *тарашкевіцы* (сукупнасьць правілаў, выкладзеных у граматыцы Тарашкевіча).

Таму й зьвіліся граматыкі, у якіх вызначалася мэта ўдасканаліць тарашкевіцу ўзору 1918 году (у БССР — граматыка Я. Лёсіка, у Заходняй Беларусі — граматыка Р. Астроўскага).

У часе беларусізацыі, у 1926 г., была скліканая прадстаўнічая міжнародная канфэрэнцыя, на якой абмяркоўваліся складаныя пытаньні правапісу. У 1929 г. выйшла апошняе прыжыцьцёвае выданьне граматыкі Тарашкевіча, якое пазьней шмат разоў перавыдавалася («клясычная» тарашкевіца). У ім былі пэўныя адрозьненьні ад першага выданьня — такім чынам сам стваральнік тарашкевіцы прызнаў неабходнасьць далейшай дапрацоўкі й удасканаленьня правапісу.

У 1933 г. камуністычныя ўлады правялі рэформу беларускага правапісу, якая прывяла да зрусыфікаваньня беларускай мовы. Беларусы ў Заходняй Беларусі, на эміграцыі не прынялі накінутай Масквою рэформы й працягвалі захоўваць незбальшавізаваны правапіс.

У часе нямецкай акупацыі й пазьней, на эміграцыі, — аж да сёньня — беларускім патрыётам удалося перахаваць цягласьць ужываньня тарашкевіцы: **ніводнае беларускае выданьне** — ці то кніга, ці газэта, ці часапіс, што зьяўляліся ў Вольным Сьвеце, — не выкарыстоўвалі «наркомаўкі» (сукупнасьць нормаў зрусыфікаванага *правапісу*).

З адраджэньнем беларушчыны ў Беларусі, у 80-я гады ў Менску ды ў іншых гарадох пачынаюць зьяўляцца тарашкевіцкія выданьні. На пачатку 90-х ужо нават некаторыя дзяржаўныя выдавецтвы пачынаюць выпускаць кнігі тарашкевіцаю. Пачала высьпяваць патрэба афіцыйнага прызнаньня тарашкевіцы за адзіны варыянт беларускага правапісу. Аднак гэтым плянам перашкодзіла спраўдзіцца прарасейскае кіраўніцтва краіны.

Трэба прызнаць, што тарашкевіцкі правапіс і ў Беларусі, і на эміграцыі зазнаў істотную мадыфікацыю і на сёньняшні дзень ніводнае выданьне не трымаецца клясычнай тарашкевіцы. Думаю, да гэтага варта ставіцца як да праявы жыцьця — кожная мова разьвіваецца, і зьмены ў мове сьведчаць найперш пра тое, што гэта жывая зьява. Важна толькі, каб гэтае разьвіцьцё было свабодным, натуральным.

Свой унёсак у разьвіцьцё тарашкевіцы на эміграцыі зрабілі аўтарытэтныя знаўцы беларускай мовы. У 1994 г. БІНІМ пачаў навуковую распрацоўку уніфікацыі тарашкевіцы. Папярэднія вынікі гэтай працы былі апублікаваныя ў 1995 г. у часапісе «Спадчына» (№ 5). У гэтым і наступным артыкулах хацелася-б выказаць свае погляды на найбольш складаныя праблемы правапісу.

### Правапіс галосных

### Яканьне

#### Уласнабеларускія словы

Паводле клясычнае тарашкевіцы *е* пераходзіць у *я*:

1) у першым складзе перад націскам: ***вясна́, лясны́***;

2) у другім складзе не пад націскам, калі ў першым складзе няма *а, я*: ***упяршыню́, нявысо́кі,*** але ***перахо́д*** (не ***пяраход***), ***беззага́нны*** (не ***бяззаганны***).

Трэба сказаць, што калі правіла 1-га складу (*е* пераходзіць у *я* ў 1-м складзе перад націскам) захоўваецца пасьлядоўна, то правіла 2-га складу (*е* пераходзіць у *я* ў 2-м складзе перад націскам, калі ў першым складзе няма *а, я*) аказалася даволі складаным для засваеньня, што прывяло да яго адміраньня, зьнікненьня ў тарашкевіцкіх выданьнях ў Беларусі.

На эміграцыі правіла 2-га складу імкнуліся й імкнуцца захоўваць, аднак зьяўляецца несумненным, што большасьць правапісных памылак у тарашкевіцкіх выданьнях на чужыне — у выпадках ужываньня правіла 2-га складу. У дыскусіях на гэтую тэму з дасьведчанымі, высокаадукаванымі літаратарамі й навукоўцамі эміграцыі мне даводзілася чуць, што нават ім, людзям, якія напісалі па-беларуску тысячы старонак, часта прыходзіцца задумляц-

*(Працяг на с. 7)*

# Доктар ВІТАЎТ ТУМАШ

## (20.XII.1910 — 27. IV.1998)

### ПАДЗЯКА

«Удзячнасьць — гэта мова сэрца», а таму дазвольце мне пачаць, дарагія сябры, ад падзякі вам усім за тое, што вы прыйшлі сюды й аблягчылі сваёй суцяшальнай прысутнасьцяй гэты сумны — для майго брата, сястры й мяне — дзень. Мы ўдзячныя нашаму душпастыру а. Васілю Андрэюку за прыгожую багаслужбу, хору — за душэўны сьпеў ды матушцы Вользе Андрэюк і ейнай сям'і за ласкавае зарганізаваньне сытнага абеду.

Мы хочам падзякаваць др. Вітаўту Кіпелю, спн. Валянціне Пархоменцы, спн. Галіне Русак, сп. Антону Шукелойцю й др. Янку Запрудніку за іхныя спагадлівыя словы ўспаміну, а таксама нашаму суседу-украінцу сп. Міколу Стасіву за шчырыя кранальныя словы ўчарашнім вечарам.

І мы выказваем найглыбейшую ўдзячнасьць нашаму дарагому Беларускаму Салаўю — Валянціне Пархоменцы — за прачулае выкананьне цудоўнай беларускай песьні над магілай майго бацькі. Дзякую за ўсе кветкі — сымбалічны жэст душы. І ўсім, што пяялі ў нябеснай гармоніі, якая ўздымала душу, — таксама наша найшчырэйшая падзяка.

Хачу скарыстаць з гэтай нагоды, каб падзякаваць др. Вітаўту Кіпелю за ўратаваньне жыцьця майго бацькі, калі бацька меў першы інсульт васямнаццаць гадоў таму. Бацька адчуў быў некаторыя сымптомы й пазваніў др. Кіпелю. Вітаўт зьвярнуўся да Вітаўта па дапамогу. Др. Кіпель прыбыў адразу-ж і адаслаў бацьку ў шпіталь. У выніку я магла цешыцца прысутнасьцяй свайго бацькі яшчэ шмат гадоў. Я хачу таксама нагадаць, што мае дарагія прыёмныя цётка й дзядзька, Анна й Уладзімер Русакі, вельмі дапамаглі майму бацьку вярнуць здароўе. Яны заўсёды былі гатовыя ў часіну крызысу прыйсьці нашай сям'і на дапамогу. Нам пашчасьціла мець такіх адданых сяброў, якія сталіся часткай нашай уласнай сям'і. Шчасьлівыя тыя, хто мае такіх сяброў.

Адмысловую падзяку выказваю Валянціне Пархоменцы, Алесю Казаку й Волі Казак, Надзі й Міколу Сапежынскім, Ані Грыгалец і Люсі Турык. Зь імі мой бацька заўсёды чуўся ўдома, смакуючы беларускую ежу, чуючы сваё родныя мову й песьні, жывучы сярод сваіх людзей зь іхнымі звычаямі й далікатным абыходжаньнем. Яны прынесьлі яму шмат цеплыні й радасьці, а ён дзяліўся зь імі сваім невычарпальным запасам апавяданьняў і жартаў. Людзі гэтыя — частка таго, што было самым важным у жыцьці майго бацькі, асабліва апошнімі гадамі.

Я ганаруся тым, што нарадзілася сярод народу з такой шчырай, адкрытай душой, сярод такіх цёпласардэчных і абыходлівых у сваіх дачыненьнях людзей. Папа Ян Павал II аднойчы сказаў, што «найгоршая турма — гэта зачыненае сэрца». Нашыя людзі, мае дарагія суайчыньнікі, заўсёды былі свабоднымі, нават у часы найбольшага прыгнёту, бо там, дзе сэрца адкрытае, там — сапраўдная свабода.

Нашыя людзі вызначаюцца сваёй дабрынёю, шчодрасьцяй, «лагоднасьцяй» і «міласьцяй». Так, Божая існасьць моцная ў сэрцах нашых людзей, і за гэта я даражу ўсімі вамі. І хоць зь некаторымі з вас я спатыкаюся вельмі рэдка, усё-ж вы ўсе мне — як сям'я. Вы заўсёды сустракаеце мяне з адкрытым сэрцам, а там, дзе сэрца адкрытае, там нельга быць чужым. Гэтак нашыя людзі заўсёды абыходзяцца з прадстаўнікамі іншых нацыянальнасьцяў і рэлігіяў. У гэтым нашая сіла як народу, і абое мае бацькі вызначаліся такой якасьцяй. Гэтае ўсеагульнае прыманьне іншых і стаўленьне да ўсіх як да сваіх — наша народная спадчына. Такім спосабам праз нас выяўляецца Божая добрая воля.

*Яра Тумаш*

## ПАХВАЛА МАЙМУ БАЦЬКУ

**Прамоўлена ў часе памінальнага абеду 2 траўня 1998 году**



*Здымак Янкі Сурвіллы*

### РОЗДУМ

А цяпер я хачу выказаць колькі словаў пашаны свайму бацьку.

Неяк настаўнік спытаўся ў сваіх пасьлядоўнікаў:

— Хто з вас ведае, як пахне ружа?

Усе адказалі, што яны ведаюць.

Тады настаўнік сказаў:

— Апішэце пах ружы словамі!

І ўсе маўчалі...

І вось сёньня ўсе мы тут, і я разам з вамі, спрабуем апісаць існасьць душы чалавека, душы майго бацькі. Як у выпадку з пахам ружы, зрабіць гэта цяжка, калі наагул магчыма. Але я паспрабую.

Існасьць духу майго бацькі адзначалася залатой сьведамасьцяй: цудоўнае сэрца, поўнае любасьці, цудоўны розум, напоўнены чысьцінёй намераў. Па сваёй прыродзе ён быў навукоўцам, але пры гэтым заставаўся вельмі простым і сьціплым. Ён быў цярплівы й надзвычай памяркоўны. Ён ніколі не наракаў на жыцьцё, нават на сваё здароўе. Ён ніколі ня прагнуў ані папулярнасьці, ані славы й не жадаў зла тым, хто яго несправядліва крыўдзіў. У ягонай галаве ніколі ня было зласьлівай думкі ў дачыненьні да іншых. Сапраўды, цудоўная душа вялікай глыбіні, прыгожы дух, напоўнены радасьцяй ды лагодным сьмехам і добразычлівым адчуваньнем гумару зь любасьцяй да чалавецтва.

Ён ніколі ня шукаў разыходжаньняў ці то рэлігійных, ці то расавых, ці то сацыяльных. Ён сустракаў і вітаў усіх дзяцей Божых з аднолькавай адданасьцяй і абыходлівасьцяй і рабіў гэта без усялякага сьведамага намаганьня. У гэтым была частка ягонае натуральнае, чыстае беларускае спадчыны.

Галілей аднойчы сказаў: «Нельга нічога навучыць чалавека, можна толькі дапамагчы яму знайсьці гэта ў самім сабе». Мой бацька бачыў у іншых толькі добрае. Можа хто з нас падумае, што гэта — нерэалістычна. Але калі я адважвалася крытыкаваць каго-небудзь перад ім, ён адмаўляўся слухаць або браць удзел у дыскусіі на гэтую тэму. Калі яму даводзілася апынуцца сярод тых, хто абвінавачваў ці зьнеслаўляў каго-небудзь, ён адмаўляўся слухаць і знаходзіў прычыну, каб адысьціся ўбок і ня браць удзелу ў гуртарцы.

Шмат гадоў пазьней я зразумела мудрасьць ягоных паводзінаў. Ягонае глыбокае перакананьне было, што калі ты ня бачыш добрага ў чалавеку, дык ты ў сапраўднасьці ніколі ня бачыў чалавека наагул, бо чалавека можна бачыць толькі ў ягонай Боскай існасьці.

Мой бацька быў чалавекам, які не марнаваў ні часу ні энэргіі, каб супрацьставіцца нечаму, а заўсёды накіроўваў свае намаганьні на стваральнае й дадатнае.

Мой бацька быў чалавекам сумленным па сваёй натуры, чалавекам, якога шанавалі ягоныя супрацоўнікі й кіраўнікі, а таксама тыя, хто працаваў пад ягоным кіраўніцтвам у мэдычнай галіне. Яго высока цанілі ня толькі беларусы, але й прадстаўнікі іншых нацыянальнасьцяў, якія прымалі яго як брата. Ён быў ведамы сваім дыпляматычным падыходам ды разуменьнем падыходаў і зацікаўленьняў іншых людзей.

Мой бацька быў ціхім, мірным чалавекам, засяроджаным у самім сабе. Апрача занятку лекарскай прафэсіяй, ён прысьвяціў бальшыню свайго жыцьця навуковай справе. Ён быў апекуном мастацтваў, і калі ёсьць на небе бібліятэка, я перакананая, што якраз там яго можна знайсьці цяпер.

### БАГАСЛАЎЛЕНЬНЕ

Бацька, мы багаслаўляем Тваю прысутнасьць, якою Ты дзяліўся ў жыцьці з намі. Няхай Тваё нябеснае падарожжа прынясе нам любасьць, супакой і радасьць, якія мы мелі ад Цябе. Няхай спачне ў супакоі душа Твая, ведаючы, што яна споўніла сваю місію на зямлі годна й дастойна, у служэньні сваёй сям'і й чалавецтву.

Мы багаслаўляем Цябе за кароткачасовую сустрэчу з намі на каардынатах часу й прасторы ды дзякуем Табе за скарб Тваё прысутнасьці тут.

Ты быў промнем сьвятла на зямлі, на якой Твая прысутнасьць пакінула сьлед. Ты й Ксеня, мая мама, узбагацілі маю душу, маю беларускую душу, і я не ўяўляю сабе лепшых бацькоў. Вы абое адзначаліся чысьцінёй і дабрынёй ды разумным шырокім паглядам на сьвет. Вашыя сын і дачка, Вітаўт і Галіна, перанялі гэтую талерантнасьць, гэты прамень сьвятла.

Тата, мы пачуваемся згубленымі, ня могучы адудзячыцца Табе, ня маючы магчымасьці абняць Цябе, пачуць Твой голас.

Але Айцец Нябесны ведае гэта, ведае, што мы абдымаем Цябе ад шчырага сэрца цяпер, калі Ты знаходзішся ў падарожжы, якое ня мае адлегласьцяў, бо ў Валадарстве Божым няма аддаленасьці паміж сэрцамі, бо Валадарства гэтае пачынаецца ўсюды й разьлягаецца паўсюль.

*Прыгадайма сабе нашу існасьць*
*у Найвышэйшым Творцы,*
*якую мы ўяўляем кожны па-свойму,*
*будучы водблескам*
*невычарпальнага Сьвятла.*
*Мы — вечная рака,*
*што бясконца мяняецца,*
*зьліваецца й пераліваецца*
*ад незапамятнага часу,*
*пульсуючы праз сусьвет*
*у бесканечных вымярэньнях,*
*услаўляючы нашу спадчыну*
*нашым падарожжам*
*Дамоў,*
*Бацька, Ты нарэшце дома!*
*Дзе ён, гэты Дом?*
*Гэта месца нашага Госпада!*
*Сусьветнае Сэрца!*
*Там, дзе Твая чыстая існасьць*
*мае свабоду*
*валадарыць у супакоі й радасьці,*
*вазваленая нарэшце з ланцугоў*
*і прывязяў.*

Сябры, мой бацька быў, ёсьць і заўсёды будзе — ён проста сышоў у цішыню бясьсьмерця, бо «душа чалавека становіцца адно з Богам, і пакуль жыве Бог, чалавек не памрэ» (Леві, «Акварыйскае Дабравесьце Ісуса Хрыста»).

## СЬВ. ПАМ. ЗОЯ ЛАТУШКІНА



13 чэрвеня сьвет пакінула Зоя Латушкіна. Нарадзілася яна 3 кастрычніка 1931 г. на хутары Сітнікі, а падчас нямецкай акупацыі Беларусі сям'я перасхала на хутар Мурочкі, недалёка ад м. Узда.

Яе бацькамі былі Іван Багдановіч і Люба Камароўская.

У Мурочках затрымаліся да 1944 г. У часе наступу Чырвонай Арміі эвакуаваліся ў Прусію, дзе затрымаліся каля году на працы ў баўэра, а зь цягам часу былі накіраваныя ва ўкраінскі лягер ДП у Ганновэр.

Зь Нямеччыны ў 1949 г. перасяліліся ў ЗША ў г. Мэдысан, штат Ўыскансын. Праз кароткі час у пошуках працы пераехалі ў Чыкага, дзе й пасяліліся назаўсёды.

У 1957 г. Зоя выйшла замуж за Мікалая Латушкіна. Разам пражылі сорак гадоў.

Зоя актыўна ўключылася ў працу арганізацыі беларускай праваслаўнай парафіі сьв. Юрыя, якая распачалася зь ініцыятывы сьв. пам. а. протапрэсьвітэра Мікалая Лапіцкага — настаяцеля праваслаўнай парафіі сьв. Ефрасіньні ў Саўт Рывэры, Н. Дж. Яна, ужо маючы грамадзянства ЗША, падпісала чартэр парафіі, які даў магчымасьць беларусам будаваць парафіяльнае жыцьцё ў Чыкага. Была заўсёды актыўнай парафіянкай, дбала пра ўпрыгожаньне, чысьціню й парадак у царкве й навакольлі.

13 чэрвеня раніцай пры пераходзе вуліцы трагічна загінула ад удару машыны, якую вёў п'яны паліцыянт.

Сьмерць Зоі Латушкінай, маткі дваіх дзяцей, балюча адбілася ня толькі на сям'і й блізкіх родзічах і знаёмых — пра трагічны выпадак шырока паведамлялася ў прэсе й тэлевізіі гораду.

Паховіны адбыліся з пахавальнага дому «Музыка й Сын».

Адпяваньне сьв. пам. Зоі праходзіла 15 чэрвеня вечарам; на разьвітаньне прыйшлі ня толькі родзічы й блізкія знаёмыя, але й спачувальнікі — суседзі, якія вялікай грамадой запоўнілі дзьве залі, спалучаныя ў адну, дзе адправілі паніхіду з удзелам трох сьвятароў і вялікага хору пеўчых зь беларускай, украінскай і расейскай зарубежнай парафіяў.

Нязьмерная гора спалучыла людзей розных рэлігіяў, нацыянальнасьцяў.

16 чэрвеня труна нябожчыцы была перавезеная ў беларускую праваслаўную царкву сьв. Юрыя, а пасьля паніхіды й апошняга разьвітаньня ў царкве цела пакойніцы было аддана зямлі на Элмўудзкіх праваслаўных магілках.

На трапезе, стол якой багаславіў а. протаерэй Алег Міранові, памяць Зоі сваёй прысутнасьцю ўшанавала 84 асобы.

Засталіся ў вялікім смутку дачка Ліза, сын Уладзімер і муж Мікалай, сястра Ліза з мужам Юліянам, пляменьнікі й пляменьніцы.

Сям'я Зоі складае тут сардэчную падзяку сьвяшчэнству за малітвы, пеўчым на паніхідах, усім, хто дасылаў кветкі, спачувальныя лісты й матар'яльна падтрымаў сям'ю нябожчыцы. Шчыры Вам усім дзякуй.

Няхай пухам будзе табе надмагільная зямля!

Сьпі салодкім сном у спакоі з Богам.

**Муж Мікалай**

## ГЭНРЫК АРХАЦКІ

13 жніўня ў веку 91 году памёр Гэнрык Архацкі, выдатны польска-амэрыканскі гісторык, мастак-графік.

Г. Архацкі быў шчырым прыяцелем беларусаў, часта прысутнічаў на нашых сьвяткаваньнях; працяглы час яго ная студыя ўдзельнічала ў тэхнічнай падрыхтоўцы газэты «Беларус».

Рэдакцыйная калегія газэты «Беларус» далучаецца да спачуваньняў сям'і Г. Архацкага з нагоды яго сьмерці.

## ЛІСТ ВЫДАЎЦОЎ

*(Працяг з с. 5)*

сандра Сержпутоўскага, «Славяншчына перад хрысьціянствам» Зарыяна Далэнгі-Хадакоўскага, «Беларусы» Яўхіма Карскага, «Народная культура славян» Казімера Машынскага, «Смаленскі этнаграфічны зборнік» Уладзімера Дабравольскага, «Рэчыцкае Палесьсе» Часлава Пяткевіча, «Зямля пад белымі крыламі» Уладзімера Караткевіча ды шмат іншых.

Наш тэл./факс **220-70-27**.

E-mail: **kniha@bk.lingvo.minsk.by**

З плянам-каталёгам «Беларускага кнігазбору» можна азнаёміцца на Інтэрнэце **http://www.wu-wien.ac.at/groups/belarus/bk/**

## СЬВ. ПАМ. КАСТУСЬ КАРАНЕЎСКІ



Сьв. пам. К. Каранеўскі адышоў у вечнасьць сёлета 10 жніўня ў Садбуры, Антарыё, Канада. Нарадзіўся ён 25 траўня 1912 г. у вёсцы Лістапад Валожынскага павету ў Меншчыне ад Амільяна й Ганны. Скончыў пачатковую школу, памагаў бацьком-селянам.

19 верасьня 1939 г. трапіў у бальшавіцкі палон і зазнаў усе «даброты» сталінскага ГУЛАГу.

У 1942 г. у ліку тысячаў іншых палякоў, беларусаў і украінцаў пайшоў у польскую армію Андэрса. Служыў у пяхоце й кавалерыі, браў удзел у баёх у Афрыцы пад Тобрукам, у Італіі пад Монтэ Касыно. Заслужыў шматлікія баявыя ўзнагароды.

Пасьля перамогі, 16 чэрвеня 1947 г. прыехаў у Канаду, працаваў два гады па кантракце на фарме, а пасьля ў Садбуры ў капальнях мэталаў.

Сьв. пам. Кастусь Каранеўскі ад пачаткаў беларускай арганізацыйнай дзейнасьці належаў да Згуртаваньня Беларусаў Канады, парафіі БАПЦ, шчодра дапамагаў грашмі кнігавыдавецкай справе ды беларускай прэсе, у тым ліку й часапісу беларускіх вайсковых вэтэранаў «Зважай». Нябожчык быў шчырым беларускім патрыётам, выпісваў беларускамоўныя газэты зь Беласточчыны, заўсёды адгукаўся на заклікі памагаць суродзічам.

Мы зь вялікай удзячнасьцю аддаем пашану Кастусю Каранеўскаму як Чалавеку, Беларусу, Патрыёту, Вернуючаму ў Госпада Бога й спачуваем Ягонай радні, якой, як даведваемся, улады цяперашняга дыктатара Рэспублікі Беларусь не дазволілі нават прыехаць на помач доўга хвораму й нямогламу сваяку ды быць на Ягоных паховінах, што адбыліся ў Садбуры ў сераду 12 жніўня.

Вечная памяць Табе, дарагі Кастусь!

**К. Акула**

У ліпені ў Вільні раптоўна памёр

адданы беларускі працаўнік, карэнны віленчук

### ЛЕАНІД КАРОЛЬ

Выказваем спачуваньні сваякам і паплечнікам.

**Рэдкалегія газэты «Беларус»**

## НЕЎРЭГУЛЯВАНЫЯ ВЫПАДКІ ПРАВАПІСУ

*(Працяг з с 5.)*

ца й, як школьнікам падлічваць склады й прыглядацца, ці ў 1-м складзе ня *а, я*, для таго, каб вытрымаць правіла 2-га складу.

Пры ўвядзеньні правіла 2-га складу Тарашкевіч грунтаваўся на ўласнай гаворцы (Віленшчына), якая рэпрэзэнтуе моцнае аканьне. Аднак калі пераход ***е*** ў ***я*** ў 1-м пераднаціскным складзе характэрны для большай часткі тэрыторыі Беларусі, то такі пераход у 2-м пераднаціскным складзе характэрны для адносна невялікага абшару. У іншых гаворках на месцы ***е*** ў 2-м пераднаціскным складзе можа быць: *і, ь* (рэдукаваны, нявыразны гук, адначасова блізкі і да *і*, і да *е*), $е^{я}$ (*е* з адценьнем *я*), $е^{і}$ (*е* з адценьнем *і*), $і^{е}$ (*і* з адценьнем *е*), або заставацца *е*.

Наступная праблема: паводле клясычнае тарашкевіцы *е* не пераходзіць у *я* у лічэбніках *дзевя́ты, дзеся́ты, семна́ццаць, васемна́ццаць* і ў вытворных ад іх: *дзеся́так, дзеся́цкі*.

Як бачым, гэта выключэньне з правіла 1-га склада. Аднак гэтае выключэньне ня мае падтрымкі ў гаворках з аканьнем (гаворках, якія сталіся дыялектнай асновай літаратурнай мовы), дзе вымаўляецца ***дзявя́ты, дзяся́ты, сямна́ццаць, васямна́ццаць***.

Усьведамляючы гэта, рэдактары тарашкевіцкіх выданьняў і ў Беларусі, і на эміграцыі адмовіліся ад гэтага правіла клясычнай тарашкевіцы й пасьлядоўна пішуць ***я*** ў 1-м пераднаціскным складзе: ***дзявя́ты, васямна́ццаты***.

Такім чынам, дзеля зручнасьці й прастаты правапісу было-б лягічным:

1) захоўваць правіла 1-га складу: *бярэ́мя, вялі́кі*;

2) пакінуць этымалягічны *е* ў 2-м складзе перад націскам нязьменным: ***упершыню́, невысо́кі***;

3) падпарадкаваць лічэбнікі *9-ы, 10-ы, 17(-ы), 18(-ы)* й вытворныя правілу 1-га складу: ***дзявя́ты, дзяся́ты, сямна́ццаць, сямна́ццаты***.

### Запазычаньні

У запазычаньнях ***е*** ў ***я*** не пераходзіць: ***лейму́р*** (від малпы), апроч тых выпадкаў, калі слова іншамоўнага паходжаньня запазычанае даўна й не ўспрымаецца як запазычаньне: ***капялю́ш, каляндáр***.

Не адбываецца пераходу ***е*** ў ***я*** і ў становішчы пасьля *г, ґ, к, х*, бо ўсе гэтыя словы — запазычаньні або вытворныя ад іх: ***Кеме́йшы*** (балцкая назва вёскі ў Лідчыне), ***Херсо́н*** (грэцкая назва гораду на Ўкраіне).

Этымалягічнае ***я*** (*я*, якое існуе й пад націскам) захоўваецца незалежна ад месца націску: ***пятна́ццаць, цяга́віты***. Да гэтага-ж правіла варта аднесьці выпадкі, калі ў іншамоўных уласных назвах спалучэньні *гя, ґя, кя, хя* адлюстроўваюць вымову ў мове-крыніцы: ***Кяту́рка*** (летувіскае прозьвішча).

**Зьм. Саўка**

*У гэтай публікацыі аўтар прытрымваўся правіла 2-га складу, што ўважаў мэтазгодным дзеля адзінства тэксту, бо зьмены ў правапісе газэты «Беларус» лічыць магчымымі толькі ў выніку адкрытага грамадзкага абмеркаваньня на старонках газэты.*

**Заклікаем нашых чытачоў уключацца ў дыскусію, выказваць свае погляды на тое, якім павінны быць беларускі правапіс.**

## СМАЧНЫ КУТОЧАК

*Тут, Войскі канчаў апісаньне, даў знак булавою.*
*І парамі ўходзяць ужо лякаі чарадою,*
*Разносячы стравы: і боршч, каралеўскім што званы,*
*Й расол старапольскі; а штучна расол гатаваны,*
*Пан Войскі бо ведае розныя дзівы й сэкрэты:*
*Укінуў туды колькі пэрлаў і штуку манэты*
*Расол так крэпе здароўе і кроў ачышчае.*

*Бо хто ж зразумее нязнаныя ў час ужо нашы*
*Паўміскі кантузаў, аркасаў і розны бляманшы,*
*З дамешкамі рознымі помухлі і фігатэлі,*
*Зайчыны, сарніны, драганты, пінэлі, прунэлі;*
*А гэныя-ж рыбы: ласось і сухі, й дунаецкі,*
*Пры ім асятрына, кавёр і вэнэцкі, й турэцкі,*
*А шчукі вялізны на локаць, таўшчэразны каркі,*
*І флёндры, і карпы цьвікі, і шляхотныя карпы.*
*Урэшце кухарскі сакрэт: гэта рыба такая,*
*Ня рэзана, смажана ад галавы, а таўстая*
*Сярэдзіна печана, хвост-жа у сосе мачае.*

***А. Міцкевіч. Пан Тадэвуш***
***Пераклад Б. Тарашкевіча***

*Рэцэпт ад Веры Заморскай*

### Рыба ў белым сосе (сьвяточная страва)

Рыба (не касьцістая, у якой лёгка выразаць філет, напрыклад, флёндра, bluefish)
2 морквіны
1 пук сэлеру
1 цыбуліна
1/2 кубка белага сухога віна
2 цытрыны (калі няма віна – 4)
1 жаўток
2–3 лыжачкі масла
2–3 лыжкі мукі
Пятрушка, бабковы ліст, чабор, соль

**Падрыхтоўка ўзвару.** У кварту вады ўліваецца віно або сок 2-х цытрынаў, кладзецца парэзаная ўздоўж морква, сэлер, разрэзаная напалам цыбуля, пятрушка, бабковы ліст, чабор і соль. Варыць на малым агні 40–45 хв., каб вада нацяглася смакам інгрыдыентаў. Узвар працадзіць праз друшляк. Усё (акром цыбулі, якую трэба выкінуць), што засталося ў друшляку, выкласьці ў іншую пасудзіну.

**Падрыхтоўка рыбы.** Рыбіну выпатрашыць, пачысьціць ад лускі, галаву можна пакінуць — узвар будзе смачнейшы. Калі рыба вялікая, яе можна парэзаць на колькі частак. Рыбу зварыць ва ўзвары на малым агні 15–20 хв. Вада не павінна кіпець «белым ключом», кіпеньне мусіць быць ледзь заўважнае. Згатаваную рыбу дастаць і аддзяліць мяса ад костак, парэзаць мяса на меншыя кавалкі.

**Падрыхтоўка сосу.** У няшырокім рандзялі растапіць масла, усыпаць муку, пачакаць, пакуль мука прасочыцца маслам; уліваць памалу ўзвар і інтэнсіўна мяшаць, пакуль маса не набудзе кансыстэнцыі сосу. Асобна ў кубку зьбіць жаўток з сокам 2-х цытрынаў і выліць у сос, каб надаць сосу прывабны белы колер.

**Апошні этап.** У гатовы сос пакласьці мяса рыбы й усё, што засталося ў друшляку пасьля працэджваньня ўзвару; падагрэць на малым агні, але не даводзячы да кіпеньня.

Адварыць бульбу ў лупінах, пакроіць на скрылі й пакласьці на рыбную талерку (талерка авальнай формы), выкласьці на талерку гатовую рыбу й гародніну, усё заліць сосам.

## АХВЯРАВАНЬНІ

### На выдавецкі фонд газэты «Беларус»

*US$*

| | |
|---|---|
| З. і В. Кіпель | 100 |
| Ю. Чарнэцкі (замест кветак на магілу праф. А. Адамовіча) | 50 |
| Дж. Гравэ | 30 |
| Ю. Кацнельсон | 30 |
| **У памяць К. Каранеўскага** | |
| К. Акула | 50 |
| **У памяць др. Тумаша** | |
| Р. Галяк | 50 |
| Ю. Гравэ | 30 |
| **У памяць др. Тумаша і праф. Адамовіча** | |
| М. Грэбень | 50 |
| *Справаздача ад С. Трыгубовіча за чэрвень і ліпень* | |
| М. Бахар | 30 |
| М. Грэбень | 30 |
| Л. Стагановіч | 30 |
| Ю. Стагановіч | 30 |
| Л. Шыманец (праз І. Сурвіллу) | 30 |
| Г. Харавец | 20 |
| *З Аўстраліі Aus$* | |
| Н. Кас-Міцкевіч | 50 |
| **Сабрана праз Ф. Шэйпака** | |
| В. і Ф. Шэйпак | 100 |
| Я. Барысэвіч | 75 |
| Т. Лашук | 75 |
| сп-ва Кукелі | 70 |
| Н. Яўневіч | 60 |
| Л. Яцкевіч | 55 |
| З. Кадняк | 50 |
| Я. Яшчанка | 50 |
| А. Груша | 50 |
| П. Гуз | 50 |
| У. Сідлярэвіч | 50 |
| В. Каралюк | 45 |
| Ад продажу | 90 |

### На Фонд Памяці Н. Арсеньневай

*Can$*

| | |
|---|---|
| К. Каранеўскі (Канада) | 1,000 |
| З. Жалязоўская (Бэльгія) | 100 |

### На дзейнасьць Галоўнае Ўправы БАЗА

*US$*

| | |
|---|---|
| Л. Колін | 550 |
| Л. Норык | 400 |
| А. Романо | 350 |
| В. і Ф. Бартуль | 350 |
| З. і В. Кіпель | 300 |
| А. Шукелойць | 300 |
| Ю. Кіпель | 200 |
| К. Романо | 200 |
| А. Сільвановіч | 200 |
| Г. і В. Русак | 200 |
| І. Сурвілла | 50 |

### На помнік і выданьне працаў сьв. пам. Антона Адамовіча

| | |
|---|---|
| К. і Я. Вініцкі | 200 |
| Н. і Я. Запруднік | 200 |
| З. і В. Кіпель | 200 |
| А. Занковіч | 150 |
| Б. Рагуля | 150 |
| Я. Арцюх | 100 |
| Т. і І. Аўдзей | 100 |
| К. Ўортс | 100 |
| Я. Жучка | 100 |
| Л. і В. Кажан | 100 |
| Ул. Набагез | 100 |
| Н. і М. Рагуля | 100 |
| В. і В. Рамук | 100 |
| Я. Сажыч | 100 |
| Л. Стагановіч | 100 |
| А. Шукелойць | 100 |
| Б. Андрусышын | 100 |
| В. і Ф. Бартуль | 100 |
| М. і В. Пашкевіч | 60 |
| А. і Ж. Дубяга | 50 |
| Л. і Л. Літаровіч | 50 |
| К. Мерляк | 50 |
| А. і Н. Сільвановіч | 50 |
| М. Сьнежка | 50 |
| Л. Трусэвіч | 50 |
| К. Бандарук | 50 |
| М. Іваноў | 50 |
| О. і В. Кендыш | 50 |
| Э. і Л. Норык | 50 |
| А. Радкевіч | 50 |
| С. Сокалаў-Воюш | 50 |
| В. Станкевіч | 50 |
| В. Цыганкоў | 50 |
| С. Шупа | 50 |
| А. Ціхановіч | 50 |
| О. і Л. Яськевіч | 50 |
| М. Грэбень | 40 |
| А. Міцкевіч | 40 |
| І. Цупрык | 40 |
| Ю. і П. Андрусышын | 25 |
| Б. Данілюк | 25 |
| Р. Жук-Грышкевіч | 25 |
| У. Каткоўскі | 20 |
| К. Акула | 10 |

**ДЗЯКУЕМ**

за дасланыя матар'ялы Ул. Акавітаму, П. Кімеш-Легкашкуру, А. Маркевічу, В. Трэмбіцкаму, М. Швэдзюку

Управа БІНІМу просіць усіх сваіх прыхільнікаў далучыцца да збору сродкаў на помнік і выданьне працаў праф. А. Адамовіча

## БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ — ПА ПОШЦЕ

Да Вашай увагі прапануўваюцца лепшыя беларускія кнігі, якія могуць быць дасланыя Вам поштай:

**Філаматы і філарэты.** Творы сябраў віленскіх згуртаваньняў XIX ст. Сэрыя ***«Беларускі кнігазбор»***. 1998. 360 с. Кошт **$15**.

*Уладзімер Жылка.* **Выбраныя творы.** Сэрыя ***«Беларускі кнігазбор»***. 1998. 400 с. **$15**.

*Аляксандар Лукашук.* **Філістовіч. Вяртаньне нацыяналіста.** 1997. 80 с. **$5**.

*М. Кацар.* **Беларускі арнамент: ткацтва і вышыўка.** Кніга мае 600 ілюстрацый, раскрывае паэтычную душу беларускага народу, яго бачаньне прыроды й яе ўзаемасувязь з чалавекам і яго жыцьцём. 1996. 210 с. **$20**.

*Анатоль Цітоў.* **Геральдыка беларускіх местаў.** Грунтоўнае дасьледаваньне гербаў местаў беларускіх этнічных абшараў. Кніга мае шмат ілюстрацый. 290 с. **$20**.

Падпіска на газэту ***«Навіны»*** (былая **«Свабода»**) каштуе **$40** на адзін квартал. Падпіску можна аформіць пачынаючы ад любога месяца, зрабіўшы замову не пазьней як за месяц да пачатку тэрміну. Газэта выходзіць тры разы на тыдзень. Ёсьць магчымасьць падпісацца й на іншыя выданьні зь Беларусі.

Замовы й грошы, калі ласка, дасылайце на адрас:

**Marat Klakotski**
**5 West Court**
**Amityville, N.Y. 11701-2235**

Больш падрабязную інфармацыю пра ўмовы падпіскі й перасылкі можна атрымаць, затэлефанаваўшы па нумары **(516) 824-3129**.

Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва,
рэдкалегія газэты «Беларус»

**віншуюць**

ведамага славіста, шчырага сымпатыка беларушчыны
рэдактара «Запісаў БІНІМу»

**праф. ТОМАСА БЭРДА**

з ушанаваньнем яго ганаровай граматай Каталіцкага Ньюманаўскага Цэнтру за выключныя заслугі ў спрыяньні міжнародным кантактам інтэлектуалістаў

Беларускі Рэлігійна-Культурны Цэнтар у Чыкага
Belarusan Religious & Cultural Center in Chicago
з 1 жніўня 1998 г. месьціцца па адрасе
3107 W. Fullerton Ave.,Chicago, IL 60647